Праваабарончы
# Веснік
снежань 2014
Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь

# У БЕЛАРУСІ З'ЯВІЎСЯ НОВЫ ПАЛІТЫЧНЫ ЗНЯВОЛЕНЫ – ЮРЫЙ РУБЦОЎ

## Пераслед Юрыя Рубцова наўпрост звязаны з незаконнай практыкай адвольных затрыманняў і з'яўляецца палітычна матываваным - сумесная заява праваабаронцаў

**Мінск, 23 снежня 2014 г.**

21 снежня стала вядома аб накіраванні гомельскага грамадскага актывіста Юрыя Рубцова ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу №7 у вёсцы Куплін Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці.

6 кастрычніка бягучага года Юрый Рубцоў быў асуджаны судом Цэнтральнага раёна Мінска па арт. 391 Крымінальнага кодэкса (знявага суддзі ці народнага засядацеля) на 1 год і 6 месяцаў абмежавання волі з накіраваннем ва ўстанову адкрытыга тыпу.

Крымінальны пераслед Юрыя Рубцова звязаны з ягоным адвольным затрыманнем 28 красавіка 2014 года падчас санкцыянаванага мірнага сходу "Чарнобыльскі шлях" за майку з надпісам "Лукашенко, уходи!" і асуджэннем на 25 сутак адміністрацыйнага арышту суддзёй суда Савецкага раёна Мінска Кірылам Палулехам. Згодна з прад'яўленым Юрыю Рубцову абвінавачваннем, падчас судовага разбіральніцтва ён дапусціў абразлівыя выказванні ў адрас суддзі Кірыла Полулеха. Важна адзначыць, што ў суд Юры Рубцоў быў дастаўлены аголены па пояс, у выглядзе, які абражаў ягоную чалавечую годнасць, а суддзя пры гэтым не прыняў ніякіх мер, скіраваных на абарону ягоных правоў, а таксама на ягоныя просьбы выдаць яму акуляры для азнаямлення з матэрыяламі справы. Дзеянні суддзі відавочна супярэчылі Кодэксу Рэспублікі Беларусь "Аб судаўладкаванні і статусе суддзяў", а таксама Кодэксу гонару суддзі Рэспублікі Беларусь. У сувязі з грубым парушэннем сваіх правоў Юрый Рубцоў выказаў цалкам абгрунтаваную незадаволеннасць і пратэст, назваўшы падобныя судовыя працэсы "судзілішчам", а суддзяў, які выносяць незаконныя судовыя рашэнні, "падонкамі". Дадзеныя словы былі інтэрпрэтаваныя як выказванні, скіраваныя персанальна ў адрас суддзі К. Палулеха, пры гэтым заўвагі Юрыя Рубцова да пратакола судовага паседжання, накіраваныя ім у суд, былі адхіленыя гэтым жа суддзёй, як неабгрунтаваныя.




У аснову вынесенага прысуду былі пакладзены выключна паказанні супрацоўнікаў міліцыі (у тым ліку тых, якія "сведчылі" на працэсе 28 красавіка), сакратара судовага паседжання і самога суддзі К. Палулеха. Ні падчас папярэдняга следства, ні падчас судовага разбіральніцтва дадзенай крымінальнай справы не быў дапытаны як сведка адвакат Юрыя Рубцова, якія ўдзельнічаў падчас разгляду справы 28 красавіка ў якасці ягонага абаронцы. Ніякіх працэсуальных перашкодаў да допыту адваката ў якасці сведкі згодна з дзеючым Крымінальна-працэсуальным заканадаўствам не было.

Мы лічым, што следства і судовы працэс па справе Юрыя Рубцова насілі абвінаваўчы ухіл, не былі прыняты меры для ўсебаковага і бесстаронняга разгляду, што з'яўляецца адным з неабходных складнікаў справядлівага судовага разбіральніцтва.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" і РГА "Беларускі Беларускі Хельсінскі камітэт" заяўляюць:

Пераслед Юрыя Рубцова наўпрост звязаны з незаконнай практыкай адвольных затрыманняў і з'яўляецца палітычна матываваным;

Судовы працэс над Юрыем Рубцовым не адпавядаў асноўным прынцыпам справядлівага судовага разбіральніцтва;

Абмежаванне волі Юрыя Рубцова ў папраўчай установе адкрытага тыпу дае падставы кваліфікаваць яго як палітычнага вязня.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" і РГА "Беларускі Хельсінскі камітэт"патрабуюць вызвалення Юрыя Рубцова і перагляду ягонай справы ў адпаведнасці з прынцыпамі справядлівага судовага разбіральніцтва.

# МІНЮСТ ПАПРАВІЎ МАГІЛЁЎСКАГА ПРАКУРОРА

Магілёўскі журналіст - фрылансер Алесь Буракоў атрымаў адказ з Міністэрства юстыцыі, дзе абскарджваў дзеянні супрацоўнікаў міліцыі і пракуратуры.

8 кастрычніка 2014 г. пастановай суда Ленінскага раёна г. Магілёва на журналіста было накладзенае адміністрацыйнае спагнанне ў выглядзе штрафу ў 6 мільёнаў рублёў. Суддзя Алена Волкава прызнала А. Буракова вінаватым у парушэнні ч.2 арт. 22.9 КаАП (незаконны выраб прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі). Паводле пратаколу, складзенага супрацоўнікамі міліцыі, Буракоў абвінавачваўся ў тым, што ён «незаконна вырабіў прадукцыю СМІ», а менавіта - артыкул, змешчаны на сайце кампаніі «Deutsche Welle».

Журналіст абскардзіў вырак у абласным судзе і гарадской пракуратуры, паколькі, на ягоную думку, доказы, на якіх грунтуецца пастанова суда, здабытыя з парушэннем закону: дзеянні супрацоўнікаў міліцыі па выняцці кампутарнай тэхнікі з кватэры журналіста і ягоных бацькоў незаконныя (пастановы, якімі яны былі санкцыянаваныя, ня маюць юрыдычнай сілы).

Гэтая выснова грунтавалася на тым, што супрацоўнікі міліцыі ня мелі законных падставаў на правядзенне аглядаў памяшканняў і выманне тэхнікі. На гэтыя дзеянні патрабуецца пастанова, якую зацьвярджае кіраўніцтва РАУС і санкцыянуе пракурор. Журналіст сцвярджаў, што пастановы на агляд месца адміністрацыйнага правапарушэння ня мелі юрыдычнай сілы, бо былі афармленыя з грубымі парушэннямі Інструкцыі па справаводстве ў дзяржаўных органах:

- у рэквізіце дакуметаў «санкцыя» подпісы былі розныя і не адпавядалі іх расшыфроўцы.

- адсутнічалі фактычныя пасады асобаў, што падпісалі санкцыі на дакументах.

Акрамя таго, на адной з двух пастановаў санкцыя была падпісаная 12 верасня, а сама пастанова - 15-га, то бок пастанова была санкцыянаваная яшчэ да яе вынясення.

Паколькі такія санкцыі ня маюць юрыдычнай сілы, губляюць юрыдычную сілу і самі пастановы, - адзначаў А.Буракоў. З гэтага, ў сваю чаргу, вынікае тое, што дзеянні міліцыянтаў па аглядах памяшканняў і выняцці тэхнікі таксама незаконныя, а доказы, якія маглі быць атрыманыя з дапамогай гэтых дзеянняў, не маглі быць выкарыстаныя супраць журналіста.

У адказе пракурора г. Магілёва Мікалая Вульвача, які атрымаў журналіст, гаворыцца, што дата 15 верасня, якая стаяла на пастанове на агляд памяшкання начальніка Ленінскага РАУСа Магілёва, з'яўляецца "тэхнічнай памылкай". Акрамя таго, пракурор цвердзіў, што дзеянне інструкцыі па справаводстве не распаўсюджваецца на органы МУС і пракуратуры.

У адказе з Мінюсту, падпісаным першай намесніцай дырэктара Дэпартаменту па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Вольгай Біруковай, адзначаецца, што пастановы аб аглядзе месца здзяйснення адміністрацыйнага правапарушэння ад 11 і 15 верасня сапраўды аформленыя з парушэннямі як Інструкцыі па справаводстве ў дзяржаўных органах, так і Інструкцыі па справаводстве ў органах пракуратуры. Патрабаванні Інструкцыі па справаводстве ў органах пракуратуры што да падпісання дакументаў, адзначаецца ў адказе, цалкам адпавядаюць патрабаванням Інструкцыі па справаводстве ў дзяржаўных органах.

Як указваецца ў адказе, з мэтай папярэджання ў далейшым парушэнняў у афармленні дакументаў структурнаму падраздзяленню па архівах і справаводстве галоўнага ўпраўлення юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама рэкамендавана правесці ў Ленінскім РАУС г. Магілёва і пракуратуры г. Магілёва семінар па справаводстве.

Такім чынам, відавочна, што дзеянне Інструкцыі па справаводстве ў дзяржаўных органах распаўсюджваецца і на органы МУС, і на органы пракуратуры. Больш за тое, пракуратура мае ўласную інструкцыю па справаводстве, распрацаваную на падставе патрабаванняў Інструкцыі па справаводстве ў дзяржаўных органах. Дзіўна, што гэтага ня ведае орган, які ўпаўнаважаны надзіраць за выкананнем заканадаўства.

# ШКЛОЎ: РЫГОРА КАСТУСЁВА ПАКАРАЛІ ШТРАФАМ

Суд Шклоўскага раёна 23 снежня пакараў штрафам у памеры 25 базавых велічынь (тры мільёны сямсот пяцьдзясят тысяч рублёў) намесніка старшыні Партыі БНФ Рыгора Кастусёва за ўдзел у адзначэнні Дня памяці паўстанцаў Кастуся Каліноўскага ў Свіслачы 26 кастрычніка 2014 года.

Разглядала справу ў судзе Шклоўскага раёна суддзя Свялана Баранцэва. Судовы працэс па разгляду пратакола аб адміністрацыйным правапарушэнні, быццам бы здзейсненым Рыгорам Кастусёвым, пачаўся ў 11-30 і з перапынкамі працягваўся да 17-20.

Па хадайніцтву Рыгора Кастусёва суддзя Святлана Баранцэва ажыццяўляла разгляд справы аб адміністрацыйным правапарушэнні на беларускай мове. У якасці сведкаў у суд Шклоўскага раёна былі выкліканы супрацоўнікі Свіцлацкага РАУС Гродзенскай вобласці Юрый Садоўскі і Дзяніс Паўлючэня.

Юрый Садоўскі працуе інспектарам па справах непаўнагадовых Свіслацкага РАУС і ў дзень правядзення ўшаванне памяці паўстанцаў Кастуся Каліноўскага, згодна яго тлумачэнняў, у цывільнай вопратцы назіраў за "несанкцыянаваным мерапрыемствам" на могілках і каля помнікаў Кастусю Каліноўскаму і Рамуальду Траўгуту ў Свіслачы, а таксама ў вёсцы Якушоўка, дзе знаходзілася сядзіба Каліноўскіх. Па словах Юрыя Генрыхавіча, Рыгор Кастусёў удзельнічаў у "мітынгу і шэсці", аднак не рабіў ніякіх супрацьпраўных заклікаў. Асноўнае правапарушэнне, якое здолеў узгадаць Юрый Садоўскі, гэта тое, што падчас выступаў каля помнікаў прысутныя разгортвалі два бела-чырвона-белыя сцягі, а таксама тое, што ў сваім выступе ў Якушоўцы Рыгор Кастусёў казаў пра небяспеку, якая існуе для незалежнасці Беларусі. Праўда, спадар Садоўскі пацвердзіў, што менавіта Рыгор Кастусёў сцягоў не трымаў і не разгортваў. Таксама не змог ён і дакладна адказаць, ці бачыў ён асабіста, як спадар Кастусёў удзельнічаў у шэсці.

Другі сведка, старэйшы інспектар аддзела прафілактыкі Свіслацкага РАУС Дзяніс Паўлючэня распавёў суду пра тое, што ён ажыццяўляў ахову грамадскага парадку і відэаздымкі падчас адзначэння Дня памяці паўстанцаў у Свіслачы 26 кастрычніка. У асноўным ён прывёў тыя ж самыя доказы супрацьпраўных паводзін Кастусёва, такія, як прысутнасць на могілках і каля помнікаў знакамітым людзям Беларусі ў Свіслачы, што і яго калега Юрый Садоўскі. Праўда, Дзяніс Валер'евіч вызначыўся тым, што адзначыў, што хоць падчас свайго выступу ў Якушоўцы Рыгор Кастусёў ніякіх супрацьпраўных заклікаў не рабіў, аднак напрыканцы яго выступу ўсе прысутныя выгукнулі "Этот їх лозунг "Жыве Беларусь"! Магчыма, супрацоўнік МУС Беларусі Дзяніс Паўлючэня лічыць, што Рэспубліка Беларусь не павінна існаваць як незалежная дзяржава.


*Рыгор Кастусёў. Фота Радыё Свабода*

Падчас разгляду справы ўдзельнікі працэса змаглі азнаёміцца з трыма відэаматэрыяламі, адзнятымі супрацоўнікамі Свіслацкага РАУС. Высветлілася, што акрамя Дзяніса Паўлючэні відэаматэрыялы на ўшанаванні памяці паўстанцаў здымаў таксама супрацоўнік Свіслацкага РАУС маёр міліцыі Чарняўскі. Неабходна адзначыць, што на прадстаўленых у якасці доказаў відэаздымкках адсутнічала дата правядзення гэтых здымкаў і практычна немагчыма было пачуць, пра што ж казалі выступоўцы ў сваіх прамовах і выступах з-за дрэннай якасці гуку.

Рыгор Кастусёў у сваім выступе ў судзе адзначыў, што ён не прызнае сваёй віны ў здзяйсненні адміністрацыйнага правапарушэння. Удзел у пахаванні грамадскага актывіста Віктара Дзесяціка, ускладанне кветак да помнікаў і запальванне свечак каля іх, ушанаванне памяці герояў-паўстанцаў не можа быць правапарушэннем. Таксама спадар Кастусёў адзначыў, што пры складанні пратакола аб адміністрацыйным правапарушэнні супрацоўнікі Свіслацкага РАУС парушылі тэрміны яго складання, а таксама дапусцілі і іншыя парушэнні.

Суддзя Святлана Баранцэва не прыняла да ўвагі довады Рыгора Кастусёва і прыняла рашэнне пакараць палітыка штрафам у памеры 25 базавых велічынь.

Па словах спадара Кастусёва, ён абавязкова будзе абскарджваць пастанову суда Шклоўскага раёна ў Магілёўскім абласным судзе.

Нагадаем, што ў Свіслачы 26 кастрычніка 2014 года адбылося традыцыйнае ўшаванне памяці паўстанцаў Кастуся Каліноўскага, удзел у якім прынялі грамадскія актывісты з розных рэгіёнаў Беларусі. На мерапрыемстве прысутнічаў і намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў.

Увесь час на мерапрыемстве ад могілак у Свіслачы да сканчэння мэрапрыемства ў Якушоўцы прысутнічалі людзі ў цывільным, і міліцэйскі аператар усё фіксаваў на камеру. Цэлы шэраг удзельнікаў адзначэння Дня памяці ў Свіслачы ўжо пакараныя вялікімі штрафамі.

# ПОДДЕРЖИТЕ ПОЛИТЗАКЛЮЧЕННЫХ!

**Людям, которые лишены свободы за свои убеждения, особенно важна поддержка общества. Найдите несколько минут и напишите письмо политическим заключенным! Возможно, именно ваши слова помогут им выдержать испытание неволей.**

**Николай Статкевич, Николай Дедок:**

212011, г. Могилев, ул. Крупской, 99а, тюрьма №4

**Евгений Васькович, Артем Прокопенко:**

212013 г. Могилев, Славгородское шоссе, 183, ИК №15

**Игорь Олиневич:**

211300, Витебская обл., Витебский р-н, п. Витьба, ИК №3

**Юрий Рубцов:**

225140, Брестская обл., Пружанский р-н, дер. Куплин, ИУОТ №7

## Кто такие политзаключённые?

*СПРАВКА*

**Авторитетная международная организация «Международная амнистия» политзаключённым называет человека, в лишении свободы которого присутствует существенный политический момент.**

**Политизаключенных зачастую осуждают по итогам процессов, сопровождавшихся нарушениями международных норм справедливого судопроизводства. Иногда их годами держат в предварительном заключении без суда и следствия. Amnesty International требует, чтобы все политические заключенные предстали перед справедливым судом в разумные сроки.**

**В отличие от узников совести, среди политзаключённых могут быть и те, кто прибегал к насильственным действиям (в том числе совершая уголовно-наказуемые деяния), либо призывал к насилию или вражде. Однако все обвинения в их адрес либо их часть могут быть и ложными. Amnesty International добивается лишь того, чтобы дела таких людей были рассмотрены в суде в разумные сроки и с соблюдением всех гарантий справедливого суда, как-то: право на адвоката по своему выбору, отказ от рассмотрения показаний, полученных под пытками и так далее.**

**Термин «политзаключенный» не означает, что человек обладает каким-то особым статусом, или что организация придаёт ему какое-то особое значение. Amnesty International не поддерживает и не опровергает взгляды таких людей, а также никак не оценивает необходимость тех или иных боевых действий в ходе политического противостояния или конфликта.**

**Сайт Магілёўскага аддзялення Праваабарончага цэнтру «Вясна»:**

**www.mahilyowspring.org**

*У нумары выкарыстаныя матэрыялы ПЦ «Вясна»*

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.